Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 18. Вільня, 9 ліпня 1927 году. Год I.

# БЕЛАРУСКІ ДЗЕНЬ

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
| --- | --- | --- |
| Wilno (Вільня), Ціхая вул. 4, (альбо Міцкевіча 15) кв. 20. Тэлефон № 1207 | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2—65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

## ІДЭЯ БЕЛАРУСАЎ.

Калі-б сягоньня, ў мінуту надзвычайна цяжкую для беларускага народу, ў мінуту разброду і ідэолёгічнага крызысу беларускае інтэлігэнцыі, спытацца кожнага сьвядомага беларуса, ці маець ён ідэю — мэту свайго жыцьця, то напэўна адтрымаўся-б ад усіх, незалежна ад „кірункаў“ і „орыентацыяў“, адзін адказ: так! ідэя гэта ёсьць. Яна большая і мацнейшая за ўсе часовыя непаразуменьні сярод беларускага грамадзянства, яна запала глыбока ў душу і сэрца, яна пакінута нам кароткай гісторыяй адраджэнскага руху, найвышэйшым момантам якога быў акт 25 сакавіка 1918 г. Ідэя гэтая: **незалежная, вольная, непадзельная Беларусь, Беларусь народная, Беларусь працы і адраджэньня.** Ніякія цёмныя варожыя сілы, ніякія перажыткі рабства ў мінулым, ніякія хмары сучаснасьці ня вырвуць з сэрца беларускіх народных масаў гэтае ідэі, якая сьвеціць сярод цёмнай беларускай ночы, як пуцяводны маяк, і якая ў канцы канцоў **павінна злучыць беларусаў**, злучыць дзеля таго, каб рэалізаваць гэтую ідэю і гэтым самым залажыць моцны грунт адраджэньня Беларусі. Гэтая лучнасьць беларусаў зьяўляецца першаю неабходнаю прадмоваю магутнасьці беларускага руху, першаю запаведзьдзю, процiў якое грашаць сягоньня ўсе і нават старыя адраджэнцы — грашаць тым, што выбралі зусім неадпаведны час для братняе грызьні і спрэчак. Другі наш сьмяротны грэх—наша засьцянковасьць наша ізоляванасьць ад іншых народаў, якія змагаюцца і абараняюць сваю незалежнасьць, **наша няўмеласьць знайсьці сабе саюзьнікаў у барацьбе за свой ідэал.** Для нас зьяўляецца аксыомаю, што Беларусь не ўпадзе з неба, а паўстане на зямлі, паўстане ў часе новых няўхільных палітычных крызысаў і катастрофаў — паўстане ў часе барацьбы Усходу з Захадам. Гэтыя катастрофы йдуць на нас з няухільнасьцю жалезнага закону, палітычнае паветра становіцца ўжо сягоньня такім наэлектрызованым, што заўтра мы можам апынуцца ізноў перад фактам новага 25 сакавіка і гора нам будзець, калі мы ня здолеем тады абараніць ідэі незалежнасьці і вольнасьці нашага народу.

Гісторыя пакінула нам вельмі малую „перадышку“, дала вельмі мала часу на падрыхтоўку да новых высілкаў і ўжо сягоньня мы павінны з надзвычайнай яснасьцю ўяўляць сабе, хто будзе з намі і хто будзе процiў нас. Ці Ўсход — ці Захад? Ці дэспотыя, ці дэмакратыя і народаўладзтва?

У будучай рашучай барацьбе за незалежнасьць з намі бязумоўна будуць усе тыя народы, якія

незалежнасьці свае яшчэ ня маюць, як Украіна, Грузія і іншыя. Павінны быць з намі і тыя, незалежнасьці якіх пагражаець небясьпека і перад усім польскі народ, у нетрах якога мы таксама павінны шукаць сабе саюзьнікаў у нашай агульнай барацьбе за ідэалы незалежнасьці і братэрства ўсіх народаў.

## Аб краязнаўчай працы.

Галіна краязнаўства—вельмі важная культурная галіна. Цераз краязнаўства мы падыходзім бліжэй да свае слаўнай мінуўшчыны. У народных расказах і казках знаходзім шмат матываў ня толькі для літэратурна - культурных распрацовак, але і для навукова - гістарычных. Далей, краязнаўчая праца дасьць матар'ялы эканаміцкага характару, як напрыклад, расьсьледаваньне нашых натуральных багацтваў і г.д.

Словам краязнаўчая праца маець вялікае значэньне для нацыянальнага адраджэньня. Краязнаўчая праца вымагае мэтоду працы і інтэнсыўнасьці.

Настала лета. Летам краязнаўчую працу можна вясьці куды лягчэй, чымся іншай парой году.

Шмат інтэлігэнцыі, а перш за ўсё моладзь, як вучні, студэнты, а нават і настаўнікі едуць на вёску адпачываць. Іх абавязак—заняцца краязнаўчай працай і, такім чынам, свой летні адпачынак выкарыстаць ня толькі для сябе, але быць карыснымі і для грамадзянства. Нажаль, ня маем дагэтуль сваіх краязнаўчых арганізацыяў, якія-б з пэўным, з гары намечаным, плянам вялі краязнаўчую працу. У нас кожны аматар-краязнаўца, бо практыкаў у гэнай галіне або ня маем зусім, або іх ёсьць мала, павінен працаваць індывідуальна, самастойна. Ён павінен і можа зьвяртацца да беларускіх культурных установаў з просьбай даць парады і дырэктывы, але перш за ўсё мусіць лічыць на сябе самога. Прыступаючы да працы, кожны краязнаўца павінен намеціць і ўявіць сабе прадмет дасьледаваньня. Далей, не павінен ён перацэньваць сваіх сілаў. Павінен, паўтараем, разьлічаць на сябе самога. І тады мусіць агранічыць сваё дасьледаваньне ў рамах намечанага прадмету, ці гэта будзе дасьледаваньне флёры, ці зьбіраньне прыладаў каменнага веку, ці расьсьледаваньне свайго балота і г. д. Пры гэным ніхто з краязнаўцаў не павінен пакінуць культурна-гістарычнага вывучэньня свае мясцовасьці.

Мэтай кожнага краязнаўцы павінна быць усебаковае пазнаньне роднага краю. Наагул тэмаў да распрацоўкі і расьсьледаваньня ёсьць вялізная колькасьць. Даволі ўспомніць аб слоўніку, аб зьбіраньні назоваў лякарскіх расьлін і іншыя.

Далей краязнаўца павінен азнаёміцца з краязнаўскай літэратурай. Кожны краязнаўца павінен аб сваёй працы паведамляць беларускія культурныя часопісі, якія краязнаўчыя матар'ялы маглі-б зьмяшчаць. Тады наладзіцца сувязь паміж працай на месцы і беларускімі культурна-грамадзкімі установамі. Ня трэба гаварыць аб вялікім нацыянальна-грамадзкім значэньні краязнаўчае працы — усім гэта ведама. І беларускі інтэлігэнт, які зьвернець сваю ўвагу на дасьледжваньне сваіх ваколіцаў, прынясе вялікую карысьць народу.

Краязнаўца.

---

## Праклятьце вандроўца.

Расказ.

Быў ясны, вясьняны дзень. Сонца заходзіла за лес і сваім сьвятлом аблівала зямлю, з каторою яно ўжо цэлу ноч ня ўбачыцца. Павяваў лёгкі вецярок, але ціха было ўсюды. Пачуўся рык быдла, што гналі з пашы да дому, з камінoў вёскі курэў дым... Абраз быў чароўны.

У гэную пару йшоў па дарозе нейкі стары чалавек. Убачыўшы перад сабою вёску, ён стаў і, зьняўшы падраную шапку з галавы, пабожна перажагнаўся.

— Слава Табе, Божа, будзе, дзе пераначаваць!— сказаў ён і, наклаўшы шапку, пайшоў далей да вёскі.

Гэта быў тыповы вандровец, пра якіх кажуць, што яны вялікія грэшнікі і дзеля таго ходзяць па белым сьвеце і замольваюць свае грахі. За час доўгае бяспрытульнасьці яму адрасла доўгая барада, вятры, сонца і дажджы асмалілі ягоны твар і вочы яго гарэлі. Апрануты ён быў у доўгую сярмягу, парыжэўшую ад часу і непагодаў.

Прышоўшы ў вёску, ён адразу ўвайшоў у першую хату і, разоў з двадцаць перажагнаўшыся, сказаў:

— Добры вечар вам, — а ці ня можна было-б у вас пераначаваць?

— Што-ж, начуйце! — адказаў гаспадар хаты, седзячы на лаўцы за сталом і чакаючы вячэры, што жонка варыла на ямцы.

Стары цяжка апусьціўся на лаўку і пачаў скідаць з сябе торбу, у каторай ляжаў кавалак нейкага хлеба, мусі.

— Скуль вы, дзеду, будзеце! — цікаўна запытаўся гаспадар старога.

— Ой, з далёка, з далёка; сам ня ведаю, дзе цяпер мая вёска: ўсе дарогі запамятаваў да яе за дваццаць лет!—адказаў стары, ўздыхаючы цяжка.

— Значыць, дваццаць лет ходзіце!—сказаў гаспадар; але далей ня пытаўся: зразумеў што гэта—балючая рана на сэрцы прыйшоўшага да яго вандроўца.

Тут зварылася вячэра і гаспадар, зьвярнуўшыся да вандроўца, ізноў сказаў:

— А што, дзеду, ці не павячэраеце з намі?— сядайце! І, не чакаючы адказу, падаў яму лыжку.

— Дзякуй, дзякуй вам, я і свайго хлеба пад'еўбы, — ціха казаў стары, выцягаючы дрыжачую руку

# ЖЫЦЬЦЁ.

Эх, пакінь, жыцьцё, — даволі!
Чым я вінен прад табой?
Га?! — мо‘ тым, што лепшай долі
Жду збалелаю душой?
Тым, што з гора праклінаю
Я, пакутнае, цябе,
Што змагацца сіл ня маю
У няроўнай барацьбе...
Мо‘ затым цярпець я мушу,
Што з ахвотаю гатоў
Класьць на выкуп сілы душу
За зьняволеных братоў.
Хай, хто іскру жалю мае,
Вочы ўзьніме, паглядзіць:
Ўздрыгне сэрца, ня ўтрывае,
Кожны скажа: „Нудна жыць“...
Нудна жыць... скрыпяць бярозы;
Лес гамоніць: „Нудна жыць“!
Глянь! чые то льюцца сьлёзы,
Голас скаргі чый дрыжыць?
Дык пакінь, жыцьцё, даволі!
Ці-ж ня хопіць гэтых мук,
Ран глыбокіх, розных боляў,
Бескарыснай працы рук?
Аб‘яднайся, брат бяздольны!
Толькі шляхам ўласных сіл
Пракладзём мы доступ вольны
Царству сьвету між магіл.
Ой, ня вечна табе, хмара,
Цемрай дыхаць — да пары!
Стукнуць громы, дождж ужара,
Блісьне сонейка з гары:
Верым - прыдзе час маёвы!
Ўздох свабодны ўзьніме грудзі,
Зьнікне шэры дзень буднёвы —
Дачакаюць сьвята людзі.

*Міхась Васілёк.*

# Вечнае імкненьне...

Вечнае імкненьне:
„Гэй, ўпярод, да сонца!“
Творыць лятуценьні,
Творыць іх бясконца.
Хваляй ненасытнай
Б‘е у гусьлі, звоніць;
Сілай нейкай скрытнай,
Песьняй-скаргай стогнець
То завесяліцца
Буйна, сваявольна,
То ізноў журыцца
Ціха, беспатольна.
Ціха адазьвецца,
Ў сэрца б‘е балюча;
Мучыць маё сэрца,
Думкай страшнай муча.
„Сонца моцна смаліць,
Можа быць за кару,
Крыльля табе спаліць,
Як, калісь Ікару“.
„І загінеш ў моры,
Узьляцеўшы з нетраў;
Ў шырыні-прасторы,
Не спаткаеш ветраў“.
Але зноў: „Спрабуй-жа,
Рвіся, мо‘ дасягнеш,
Рвіся, мілы дружа,
Рвіся, калі прагнеш“.
„Там, ўгарэ, прывольле,
Можна разьвярнуцца;
У прастор-раздольле,
Можаш ты імкнуцца“.
Стаіш ў задуменьні.
Што рабіць... ці ймкнуцца?
Завуць лятуценьні,
Завучы, уюцца.

*Вітэблянін.*

з ложкаю да агульнае місы.

— Ну, як гэта можна—пусьціць чалавека пераначаваць і яго не накарміць?—сказаў на гэта гаспадар.

— А ці шмат у вас сям‘і, гаспадару? — загаварыў вандровец, ядучы.

— Сям‘і то няшмат: я, жонка і сын адзіны, але таго ўзялі ў маскалі!—адказаў гаспадар.

— Сьцеражы, Божа, вайны,—шмат людзей на ёй гіне.

— На вайне гінуць, але і ў нас то цяперака гінуць!—сказаў гаспадар.

— Як-то? — падзівіўся вандровец.

— А, бачыце, завяліся ў нашым краі разбойнікі. Нікому ні праходу ні праезду не даюць; багаты ці бедны, а паехаў вун туды праз той лес, — ён паказаў пальцам праз вакно на сінеўшы ўдалі бор,— і канец яму, да хаты ўжо не варочаецца! І з нашае вёскі ўжо трох няведама дзе згінулі, як паехалі туды!

— Як-жа гэта можна? а ці іх ня ловяць?

— Лавіць — ловяць, але малая карысьць з гэтага; атаман у іх ёсьць, Ваўком, казалі, называецца, — то той іх, гэных разбойнікаў, і ратуе. Хітры ён, як чорт і злы, як агонь. Кажуць, што ён робіцца ваўком і ўночы абягае ўсюды, выглядае, дзе багатшы двор ці вёска, і потым прыходзіць з таварышамі і рабуе ды людзей забівае... Сьцеражы нас, Божа, ад яго—гэта шатан, а не чалавек!

Скончылася вячэра; гаспадыня забрала са стала і пачала прыгатаўляць пасьцель для вандроўца. Той, падзякаваўшы за вячэру, сядзеў каля стала.

Ляглі спаць гаспадар з жонкаю, а ён, укленчыўшы, пачаў маліцца. Доўга стаяў і маліўся, гаварыў нейкія, зусім няведамыя гаспадаром, малітвы і стукаў лобам аб падлогу.

— „Чаму ён так доўга моліцца?—думаў гаспадар, — мусіць, ён грэшнік вялікі; з дабра ніхто не пайдзе так цягацца!“

Заснуў гаспадар, а вандровец усё, ўкленчыўшы, маліўся. У канцы, пакланіўшыся, ўстаў і лёг на пасьцель, што гаспадыня прыгатавала для яго.

Але заснуць ня мог. Перад ім праносіліся абразы далёкае мінуўшчыны. Вось, ён сам гаспадар у сваёй вёсцы. Мае зямлі даволі, шмат быдла, хату добрую. Усе яго шануюць, бо быў да ўсіх справядлі-

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Пра шкоднікаў, якія бываюць на збожжы і барацьба з імі.

Шмат ёсьць шкоднікаў, якія жывуць і выводзяцца на пасевах. Не пасьпееш укінуць зярня ў зямлю, як рознародныя шкадлівыя мурашкі, хрушчы і інш. ворагі нападаюць на яго. Калі хлеб узыйдзе, дык і тады на яго накідваюцца розныя шкоднікі: падточваюць яго карэньні, паядаюць лісьцьцё, нават калі хлеб зьбяруць з поля і прывязуць у гумно, дык і тут бяз іх не абходзіцца. Нават калі зьмелем збожжа на муку, дык і тут няма ад іх супакою. Таму і ня дзіва, што пасьля добрае сяўбы, зярня ня ўзыходзіць зусім, альбо ўзыходзіць толькі месцамі (латамі). Бывае, што хлеб у свой час узойдзе і прыгожа зазелянее, а праз дзе-які час пачынае вянуць і зусім засыхаць. А часам, глядзі, вырастае хлеб і добры, але салома няроўная, як быццам паломаная. Няраз з зялёнае, салома адразу робіцца белаю. Калі пацягнем за такую саломінку, дык яна лёгка выцягваецца, як быццам яе хтось насумысьля тут уткнуў.

З каласкамі таксама трапляецца, што шмат з іх на полі стаіць парожніх і робяць такое ўражаньне, як быццам іх хто павыкалочваў.

Усе гэтыя шкоды прычыняюць шкадлівыя істоты, якія лёгка распладжаюцца, калі ня ўжываецца ніякіх сродкаў для зьнішчэньня іх. Аб гэных шкодах гаспадар добра ведае ды толькі ня зусім добра сабе ўяўляе, з чаго гэта шкода вынікае. Бо аб тым, скуль бяруцца гэныя шкоды, неабходна ведаць кожнаму гаспадару, каб магчы з імі змагацца, а тым самым унікнуць вялікае страты хлеба.

Напрыклад, скажам: у нас на дзесяціну высяваецца 9 пуд. жыта, гэта знача 9,680,000 зярнят. Няхай палова гэтага збожжа прападзе: перасыпка, раструска, частка ня ўзойдзе, а частку вызьбіраюць на полі птушкі. Калі-ж другая палавіна ўзыйдзе і дасьць хоць па 2 каласкі, а ў кожным каласку па 20 зярнят (а бывае заўсёды болей), дык і то будзем мецъ з дзесяціны 93,600.000 зярнят, гэта каля 180 пудоў. Але-ж калі ўраджаі, напр., у нас бываюць у найлепшых выпадках толькі 80—100 пуд., а часьцей за ўсё па 40 — 50 пуд. з дзесяціны. Адзін вучоны падрахаваў, што на адзін квадратны аршын жыта прыпадае 306 сьцяблін, з якіх 137 каласкоў цэлых, 169 папсованых.

Вось-жа, каб зьнішчыць ворагаў хлеба, неабходна ведаць, скуль яны бяруцца, як жывуць, выводзяцца, куды падзяюцца на зіму.

Трэба памятаць, што шкадлівыя мурашкі паруюцца, пасьля саміца кладзе яечкі, з яечак выплоджваюцца чарвячкі, ці гусеніцы. А гэтыя чарвячкі і гусеніцы найбольш шкодзяць хлебу. Яны распаўсюджваюцца з вялізарнаю хуткасьцю. Праз нейкі час гусеніца абяртаецца ў лялечку, а з лялечкі праз некалькі дзён выходзяць новыя шкоднікі, што ўзноў кладуць свае яечкі і г.д. Жучкі, матылькі, блохі, папеліцы—гэта ўсё шкоднікі, што жывуць у зямлі, на дзераве, на збожжы, бур'янох і г. д.

Яшчэ нават збожжа ляжыць у сьвірні, як у ём ужо ёсьць маленькі жучок, які завецца сьвінкаю (доўганосік). Жучок гэты гэтак вялікі, як палавіна зярня пшаніцы, мае ён доўгенькі носік, як у свінкі, таму і завецца — сьвінкаю. Гэтая сьвінка точыць зярня, выядае ў ім сярэдзіну і кладзе там свае яечкі, з тых яечак выплоджваюцца маленькія чарвячкі, а праз нейкі час чарвячкі абяртаюцца ў лялечкі і з іх выходзяць новыя жучкі - сьвінкі.

---

вы. Але ня быў ён справядлівы да сына свайго Аляксея. Катаваў яго часта нялюдзка і, няведама за што, зьдзекаваўся над ім заўсёды. За што ён меў злосьць такую на свайго адзінага сына—сам сказаць ня мог. Сын цярпеў, цярпеў доўга, памятаючы Божае прыказаньне: „шануй бацькоў“, і ні адным гукам не спраціўіўся бацьку—кату свайму. Але аднае раніцы ён згінуў з хаты і не вярнуўся болей. Ніхто ня мог сказаць, куды пайшоў ён. Як ня стала сына, дык пачала гаспадарка падаць; няшчасьце за няшчасьцем прыходзіла на яе; сьпярша памёрла жонка, ня было каму абшыць, ачысьціць яго і есьці наварыць; скаціна адна за адною здыхала. Хутка з багатага ён зрабіўся бедным і пашану ў вёсцы страціў. Зразумеў тады, што гэта — кара за яго нялюдзкасьць. Нейкі боль пачаў грызьці яго душу і пачало нешта гнаць яго няведама куды. Пайшоў ён раз з хаты, слухаючы гэнага ўнутранага голасу, — і не вярнуўся. Вось ужо дваццаць лет, як ён ходзіць па белым сьвеце, але ня можа знайсьці сабе спакою...

„А што? — думалася яму, — можа гэны разбойнік — сын мой! О, як я вінаваты, як я вінаваты!“

Перад самым сьветам ён неяк заснуў такі. Але сон яго быў неспакойны; ён і стагнаў і паплакваў у сьне. А гаспадары, ўстаўшы рана, прыслухоўваліся і пыталіся адно ў аднаго: — Што гэта можа быць за чалавек?

Як толькі сонца ўзышло, дык вандровец прабудзіўся, памыўся, закінуў торбу на плечы і скіраваўся да дзьвярэй.

— Аставайцеся здаровы, дзякую вам за начлег! —сказаў.

— Няма за што, дайце я вам кавалачак хлеба ўлажу,—сказала гаспадыня, — і, адкроіўшы ад бохана вялікі кавалак, апусьціла яго ў торбу старому.

— Дзякую, дзякую! — казаў вандровец, і, адчыніўшы дзьверы, выйшаў з хаты.

Вуліца вёскі была пустая; толькі праз вокны цікаўна выглядалі бабы, ўбачыўшы ідучага чалавека...

Сонца падніма ецца вышэй і вышэй і паліць голаў вандроўца. Нарэшце, ён увайшоў у лес, пра каторы гаспадар, дзе ён начаваў, казаў, што ў ём—разбойнікі. Адразу на яго павеяла сьвежасьцю хваёвага бору. Пахла смалою і пазёмкамі. Паволі дарога рабі-

Расплоджваецца гэтая сьвінка дужа хутка, а гэтым прычыняе збожжу вялікую шкоду. Выедзенага сьвінкаю зярня адразу ня відаць, бо ў ім ёсьць вельмі маленькая дзірачка, праз якую сьвінка тоненькім і доўгім носікам выядае сярэдзіну.

Жучок гэны ўвесь час жыве ў сьвірні, калі-ж няма там збожжа, дык ён хаваецца па шчылінах і там жывець, пакуль зноў у сьвіран не насыплюць збожжа. Каб зьнішчыць гэтага шкодніка неабходна, як мага, часьцей, праветраваць сьвіран ды мяшаць лапатаю збожжа. Сьвінка вельмі любіць цяпло, дык дзеля гэтага збожжа можна накрываць кажухамі, а праз суткі, калі яе налезе ў кажухі, ўзяць асьцярожна, вынясьці на падворак і вытрусіць.

Проці сьвінак можна яшчэ ўжываць сьмярдзючага сернага вугляроду, які можна дастаць у аптэках.

Робіцца гэта так: замазваюцца ў сьвірні глінаю шчыліны, каб паветра не праходзіла, потым наліваюць у міскі вугляроду і расстаўляюць іх па сьвірне і пры гэтым дзьверы трэба шчыльна зачыніць і зрабіць так, каб не праходзіла паветра. Праз суткі адчыніць дзьверы, пазьбіраць і занясьці дохлых жучкоў у печ.

Абходзіцца з вуглеродам трэба асьцярожна, бо ён лёгка запальваецца.

Толькі што зярня ўкінута ў зямлю, як ужо да яго падбіраюцца чарвячкі - драцянкі. Яны бываюць вялікія і малыя, цьвёрдыя, быццам заправўдны дрот, жоўтыя з цёмнымі абручыкамі ўпоперак, бліскучыя і добра лазяць пад зямлёю.

Выплоджваюцца драцянкі з яечак, што кладуць, так званыя „каўчанкі"; гэта невялічкія жучкі, вядомыя амаль што - кожнаму гаспадару. Калі гэтага жучка перакінуць на плечы, дык ён спачатку будзе ляжаць ціха, потым раптам сагнецца, трэсьне і падскочыць угару. Жучкі гэныя выводзяцца на добра ўгноенай, пухкай зямлі, найбольш іх бывае тады, калі ня вельмі добра загараны гной. Ядуць яны ня толькі зярнё, але і маладыя карэньчыкі, перагрызаюць сьцяблíны, ад чаго лісьцьцё пачынае вянуць, жаўцець і хутка засыхае.

Драцянкі трэба труціць аршэнікам (мыш'яком). Дзеля гэтага бяруць кукурузу і вараць яе разам з аршэнікам, потым раскідаюць па полі (перад тым, як трэба баранаваць засеяную ніву). Аршэнік — вялікая атрута, так што пасьля таго, як ён будзе раскіданы па полі, ня трэба туды пускаць ні курэй, ні птушак, бо, нажоршыся гэтае атруты, птушка зараз-жа прападзе.

Апрача тых шкоднікаў, аб якіх мы вышэй пісалі, ёсьць яшчэ шмат іншых, як аседлая гусеніца. Гэта вялікі чарвяк, цёмна—альбо жоўта-рудога колеру з жоўтым нізам, які падточвае карэньні, нават есьць зярнё. Прысутнасьць яго на полі будзе відаць яшчэ здалёку, бо калі ўжо збожжа зазелянее, дык на полі будуць бачаны вялікія пляхі без засеву. Калі разгорнем на такім месцы зямлю, дык убачым там гусеніцу, якая ляжыць у зямлі нядужа глыбока.

Выплоджваецца гэты шкоднік з яечак, якія кладуцца матыльком—азімаю соўкаю. Яечка соўка кладзе на бур'янох, а найчасьцей на бярозках, што растуць між збожжам. Нейкі час малады шкоднік, корміцца лісьцьцём бярозкі, а потым зарываецца ў зямлю. А як пасеюць жыта, тады ён ужо стараецца нішчыць укінутае ў зямлю зярня. Найбольш шкодзіць ён азімай пшаніцы: Пад зіму ён абяртаецца ў лялечку, а на вясну робіцца матыльком (азімаю соўкаю) і тады ўжо кладзе яечкі. Каб пазбавіцца гэтага шкодніка, неабходна поле трымаць у чыстаце, нішчыць рознае зельле і бур'ян. Няраз, як зязелянее ўжо збожжа на полі, можна прыкмеціць збажыну з пажоўклымі лісточкамі: яны пачынаюць жоўкнуць зьнізу. Калі вырвем такую сьцяблінку, дык каля сьцябла можна пабачыць белага чарвячка, які сьсе сок з такога сьцябла. Чар-

---

лася вузей і вузей, пакуль з гасьцінца не зрабілася амаль ня сьцежкаю.

Сонца пякло; парыла так, што трудна была дыхаць.
—„Навальніца будзе мусіць", — падумаў вандровец.

І праўда: раптам з-за хвояў паказалася малая, шэрая хмарка. Паступова яна расла і аблягала неба. Вось і сонца яна закрыла. Павеяў нейкі вецер, лес зашаптаў.

— Гр-ры-ры-ры—ууу!—раскаціўся далёкі гром.

— „Будзе навальніца, трэба пашукаць, дзе схавацца" — падумаў стары і пачаў аглядацца, ці няма дзе куста якога. А хмара расла і расла, і ў лесе зрабілася цёмна. Вось—густы куст ляшчыны. Вандровец падыйшоў, скінуў торбу, палажыў яе пад куст і сеў на зямлю каля яе.

Пранёсься вецер па лесе і раптам пачаў ісьці дождж; сьпярша дробнымі кроплямі, потым гушчэй і гушчэй, і паліў, як з вядра. Лес пад дажджом зашумеў, загаварыў... Раптам жахнула асьляпляючая маланка, асьвяціўшы ўвесь лес. Мала ня разам з ёю затрашчала ўгары, як-бы неба, раскалоўшыся, валілася на зямлю—грымот жудасны. Ўдарыла — і воз сьвятога Ільлі пакаціўся далей, грукоцячы па хмарах. Яшчэ раз бліснула і загрымела і зямля затраслася.

Доўга яшчэ грымела, але ўрэшце пачало сціхаць і дождж ужо ня так густа йшоў; хмара праплывала над лесам. Вось і кавалачак блакіту паказаўся; расьце ён хутка,—хмара як-бы ўцякае ад яго. Зазіяла ізноў сонца і паветра, асьвежанае дажджом, дзіўна запахла. Дыхалася лёгка. Па лесе панясьліся песьні птушак, каторыя перад дажджом зусім замоўклі. Вандровец выйшаў з-пад куста, даволі змокшы, і пайшоў далей дарогаю...

Ноч... На невялікай палянцы ў лесе гарыць вялікі агонь, абліваючы крывавым сьвятлом хвоі. Цемната дрыжала, але падступіцца да паляны, дзе гарэў агонь, не магла і хавалася за хвоі. Каля агню ляжаць і сядзяць нейкія людзі. Твары ў іх вусатыя, грозныя. На доўгіх ражнох яны пяклі на агні кавалкі мяса. Каля іх ляжалі нажы і стрэльбы. Да хвояў былі прывязаны коні—штук дваццаць.

— Але й сьмех быў! — сказаў адзін з сядзеўшых,—як напалі мы на двор. Будынкі ў агні, з іх павылятали ўсе і бегаюць па падворку, як дурныя.

вячок гэты выплоджваецца з яечак, якія кладзе ўвосень гэсэнскі камарык. Яечкі гэтага камарыка так малыя, што іх цяжка прыкмеціць. Камарык кладзе іх на лісточкі пасеву.

Увосень чарвячок абяртаецца ў лялечку, спачатку белую, а потым цёмна-бурую; лялечка гэта падобная да ляннага насеньня і знаходзіцца між сьцяблом і лісточкамі збажыны, дзе й зімуе. На вясну з гэтае лялечкі вылятае камарык, які кладзе свае ўжо яечкі на азіміну і ярыну. За лета ён выводзіцца два разы і больш. На тым полі, дзе ёсьць гэсэнскі камарык, хлеб мае такі выгляд, як быццам яго хто патоўк, салома быццам паломана і на ўсе бакі пакручана. Гэта—работа гэсэнскага камарыка.

Ў тых мясцох, дзе ён водзіцца, трэба сеяць азімы хлеб трохі пазьней, як звычайна сеецца. Пасьля дажджоў, з лялечак хутка выплоджваюцца камарыкі, а пакуль хлеб узыдзе, яны прападаюць. Калі гаспадар прыкмеціць на азіміне ці ярыне шмат камарыкавага чарвячка, дык засеў трэба прыараць і пасеяць нанова, бо інакш карысьці будзе дужа мала. Апрача гэсэнскага камарыка, ёсьць яшчэ падобны да яго шкоднік — шведзкая муха.

Шкоднік гэты нападае на маладыя пасевы і найбольш шкодзіць ярыне. Барацьба з шведзкаю мухаю, так-жа сама цяжкая. Але каб ня даць ёй распаўсюдзіцца, неабходна пасьля жніва, як мага глыбей, згараць поле, наагул добра пад засеў падгатовіць зямлю.

(„Наше Життя“). *І. Люшук.*

## Гароднія работы ў цяперашні час.

Далей вясьці барацьбу з усякага роду чарвякамі, значыцца: страсаць з дзерава хрушчы на разасланыя пад ім посьцілкі, зьбіраць іх у якую-нібудзь судзіну і зараз-жа заліваць гарачаю вадою. На дрэвах зьяўляюцца гусеніцы большыя і меншыя, голыя альбо пакрытыя густым валосьсем і лакома зжыраюць маладую тканіну, аслабляючы гэтым дзерава. А дзерава, калі яго пазбавіць лісьцьця, ня будзе магчы даць у даным годзе пладоў ды цьветавых пучкоў у чародныя гады. З мэтаю барацьбы з гэтымі шкоднікамі зьяўляецца вельмі добрым спосабам—затручваньне лісьцьця на дрэвах рошчынаю парыскае зяленіны, або хімічным прэпаратам гэт. званым Лярвінам (Larvin), каб гусеніцы труціліся, ядучы расьлінную тканінку.

Кропячы дрэвы рошчынаю парыскае зяленіны, трэба, прыгатаўляючы яе, захаваць прапорцыю: на 100 літраў вады 50 гр. парыскай зяленіны і 100 грам. нягашанае вапны. У часе апырскваньня жыжку часта мяшаць, дзеля таго, што парыская зяленіна лёгка асядае на дне.

А спырскваючы дрэвы Лярвінам, захоўваем прапорцыю: на 100 літраў вады ад 200 да 400 грам. Лярвіну (1 кілёгр. гэтага прэпарату каштуе 12 зл.).

У выпадку зьяўленьня на лістох або пладох чорных плямачак (чорны грыбок), дрэвы трэба апырскваць бордоскаю жыжкаю, альбо 1% хімічным прэпаратам, званым Арбосанам (Arbosan) (1 кілёгр. каштуе 5.50). Трэба зазначыць, што, прыгатаўляючы бордоскую жыжку, можна дадаваць 50 грам. парыскай зяленіны, альбо да рошчыны Арбосану дадаваць Лярвіну. Мешаніна гэтых жыжак зьнішчае чорныя грыбкі, а таксама і авадні. На фруктовых дрэвах зьяўляюцца невялікія гусеніцы, якія цэлымі гнёздамі асядаюць на вяршкох галінаў, абмотваюць іх павуценьнем, а як аголяць ад лістоў вяршок, дык пасоўваюцца далей па галінах, снуючы пражу з павуценьня. Гэта гусеніцы намётніка. Як барацьба з гэтым шкоднікам, радзіцца апальваць гнёзды паходнямі. Трэба глядзець, каб не нарабіць дрэвам шкоды, прыпальваючы іхнюю тканінку.

---

А мы іх у агонь! Вось усе круціліся!

— Мы добрую здабычу там знайшлі! — адказаў яму адзін, — а ўсё, дзякуючы нашаму разумнаму начальніку!

Адзін з сядзеўшых усьмяхнуўся на гэта.

— Не хвалі, куме, і ты добра працаваў!

— Што ты, атамане, кажаш!—абурыўся той,— то-ж ты нам паказваеш найлепшыя фальваркі і вёскі, а прыдуць лавіць нас, дык у такое месца нас схаваеш, што сам чорт не знайдзе!

Атаман пакруціў свой доўгі, чорны вус і спытаўся:

— А што, сьпяклі там чаго для мяне, а то жэрці хачу! Вашым браханьнем вы мяне не накорміце!

— На, на!—адазвалася некалькі галасоў. Але атаман узяў у найбліжэйшага кавалак мяса і пачаў яго есьці.

— Пайду, пагляджу коняй; можа яшчэ аўса падсыпаць трэба! — сказаў разбойнік, каторага атаман называў кумам і, ўстаўшы, пайшоў да коняй. Падсыпаўшы ім аўса, ён хацеў вярнуцца назад, як нешта ўбачыў у лесе і скочыў туды.

— Чаго гэта кум пабег?—сказаў атаман,—што ён там ўбачыў?

У хуткім часе з па-за хвояў выступіў кум, валочачы нейкага старога чалавека.

— Маеце цацку, паграем трошкі з ім!—сказаў,— гэта, мусіць, шпік, калі ён тут цягаўся.

Разбойнікі весела зарагаталі, ўчуўшы гэта.

— Гэй, валачы яго сюды!—крыкнуў атаман,— зараз пабачым, хто ён такі!

Кум прыцягнуў старога да атамана і паставіў яго перад ім.

— Ну, кажы, хто ты?—загадаў атаман, вымаючы доўгі нож.

— Я... я...—мармытаў стары.

— Што ты?—зароў атаман і нажом лёгка ўдэрыў старога па лобе. Пацякла кроў і заліла вочы чалавеку.

— Хто ты?

— Я вандровец: грэх свой цяжкі, ходзячы, замольваю!—ледзьве мог адказаць той.

— А, вандровец! знаем мы вас; толькі ходзіце і выслухоўваеце ды выглядваеце, дзе мы знаходзімся!...

Зьбіраць фрукты, якія падаюць з дрэваў, і даваць іх жывёле альбо кампаставаць.

У спакойныя вечары паліць у садох вогнішчы, каб у іх падалі матылі.

Галінкі, якія засыхаюць, трэба абцінаць. Дрэвы, саджаныя позна, паліваць і расіць па меры магчымасьці.

Шляхотныя пабегі ў школках і на незашчапляных дрэвах прывязваць, каб расьлі проста і каб вятры іх не папсавалі.

Выцінаць на дрэвах ваўкі. Палоць загончыкі сеянцаў яблыняў, грушаў, сьліваў і іншых дрэваў; таксама і загончыкі саджанцоў парэчак і адсадаў аграсту; ў меру патрэбы паліваць іх, а зямлю утрымліваць у пухкім стане.

Па кустох садовак (трускавак) і паміж імі вылажыць зямлю сухім мохам, альбо саломістым гноем, з мэтаю забясьпечаньня фруктаў ад гніцьця і паданьня ў пясок.

Рыхтаваць кошыкі і драбіны да зьбіраньня чарэшняў, вішняў і ягадных пладоў.

### У варыўным гародзе.

Сеяць для заўсёднага збору радыску, салату і гуркі на карнішоны. Рабіць аполваньне і акопваньне гароднін. Спульхняць зямлю частым матыкаваньнем або плянэтаваньнем.

### У гародзе з краскамі.

Бэзы і іншыя кусты, пасьля таго, як яны адцьвітуць, адпаведна прырэзаць.

На рожах зьнімаць п'яўкі, выкідаць дзікія пабегі, выцінаць тыя краскі, якія перацьвітаюць, шляхотныя пабегі ушчыпваць над чацьвёртым лістом, з мэтаю выклікаyньня сільнейшага разгалінаваньня. Узмацняць гэтым паўторнае цьвіценьне.

### Краскі ў пакоі.

Памешканьні, ў якіх знаходзяцца вазоны, праветрываць, а таксама заценьваць ад сонца і часта іх зрошваць з самае раніцы альбо пад вечар.

### Фруктовыя перараблкі.

З касьцістых фруктаў і ягадаў рабіць: з аграсту — віно, варэньне і квашанінку; з чорных ягадаў — віно, сок і сушанцы; з малінаў — віно, варэньне і сушанцы; з вішняў—віно, сок, наліўкі, кампоты, варэньне, мармэляду; з садовак і пазёмак — варэньне; з пазёмак—сушанцы.

## Аб частым бяленьні стайні і хлява.

Ня кожны з гадавальнікаў і сельскіх гаспадароў здае сабе справу з таго, як вялікае значэньне для здароўя інвэнтару мае бяленьне сьцен і столяў у стайнях, хлявох і падобных да гэтага будынках, прызначаных на памяшчэньне для нашае жывёлы.

Унутранае бяленьне гэтых будынкаў толькі для звычаю раз у два, ці нават і ў тры гады, і то толькі тады, калі гаспадар бачыць, што ў іх ужо „вельмі цяжка"—павінна быць рашуча пакіненае, а павінна адбывацца заўсёды і сыстэматычна, з усім зразуменьнем справы два разы ў год, вясною і ўвосень.

Частае бяленьне памяшчэньня для жывёлы дае гэткія карысныя рэзультаты:

Перш за ўсё ў кожным пабеленым памяшчэньні ёсьць больш сьвятла, дык яно і віднейшае і ясьнейшае, што добра ўплывае на здароўе жывёлы; у відным памяшчэньні шмат лягчэй загадзя можна заўважыць якую-нібудзь хваробу і ўхіліць яе.

---

— Гэй, таварышы, забярэце яго і зрабеце яму, сабацы, добрую лазьню!—сказаў ён разбойнікам.

Тыя, ўчуўшы гэныя словы, ўхапілі вандроўца, зьдзёрлі з яго лахман і разьдзелі да голага. Потым прывязалі яго да хвоі і, ўзяўшы вуглёў з агнішча, насыпалі іх старому пад ногі. Прынясьлі сухога гальля, палажылі яго на вуглі. Сьветлы аганёк падняўся і лізаў ногі няшчаснага. Твар яго скурчыўся ад болю страшнага, з вуснаў выляцеў страшны хрып.

— Вось вам усім, шпіком, так будзе! — сказаў яму атаман, падходзячы,—не падглядайце!

— Хай будзеш ты пракляты навекі! — вырвалася ў вандроўца,—жыві ты аж да другога прыходу Хрыста — Ён цябе асу...

Больш не дагаварыў, бо атаман, увесь чырвоны ад злосьці, з вачыма, набегшымі крывёю, падняў нож і ўсадзіў вандроўцу ў грудзі...

Ціхі хрып вырваўся з вуснаў таго; галава зьвісла на грудзі і доўгія яго валасы спусьціліся на лоб, адкрываючы худую шыю і вялікі чорны радзімы знак на ёй...

— Бацька! — раптам крыкнуў атаман не сваім голасам,—забіў бацьку!!

І, ўпаўшы на зямлю над трупам, качаўся па ёй, вырываючы валасы цэлымі жменямі... Разбойнікі, поўныя страху, расьцягнулі агонь з-пад ног забітага і пачалі яго адвязваць ад хвоі... Палажылі на зямлю; атаман падняўся, паглядзеў, і зноў упаў на зямлю ды абхапіў труп рукамі.

— Бацька, бацька!.. што я зрабіў?!

А кругом яго стаялі разбойнікі і маўчалі. Не ў аднаго паказалася сьляза на вачох...

---

З тэй пары прапаў недзе атаман Воўк з сваёю шайкаю. Толькі ў вёсках калі-не-калі бачылі нейкага чалавека з доўгаю барадою, у абарванай вопратцы і з дзікімі вачыма. Як толькі затрубіць пастух, або заграюць малыя на дудцы, дык ён бег няведама куды, мармычучы сабе пад нос: „а, апошні дзень, труба архангела... страшны суд!"

Сяргей Белайц.

Затым, бяленьне часта дзеець дэзынфэкцыйна, гэта знач. забівае мікробы і розныя апівошы, ачышчае паветра і праз гэта папярэджвае розныя хваробы.

Вядома, напрыклад, што ў хлявох альбо ў стайнях, ніколі не абмятаных і нябеленых, па прычыне награмаджаньня павуценьня, пылу, гразі і плесьні, жывёла лёгка занядужвае на розныя скураныя хваробы, як лішаі, кароста і паршы.

Апрача таго, як даказалі гэта зробленыя дасьведчаньні д-ра вэтэрынарыі Шадэ (Schade), бяленьне хлява вельмі добра ўплывае на пабольшаньне ўдою малака, які павялічваецца на 2 — 3 літры ў дзень.

Нажаль, у нас гэтак мала зьвяртаецца ўвагі на неабходнасьць частага бяленьня і на тую карысьць, якую яно прыносіць.

Найчасьцей бяленьне сьценаў пачынаецца пад націскам лекара, альбо тады, калі зьявілася ўжо нейкая заразьлівая хвароба.

Бяленьне павінна быць роблена два разы ў год, незалежна ад хваробаў, і апрача таго яшчэ пасьля кожнае заразнае хваробы, як: насацізна ў коняй, сухоты, кароста.

Дык зразумейма свой уласны інтэрас і незабывайма аб гэтай так важнай функцыі, а невялікі, зроблены на гэта расход, заўсёды аплаціцца і прынясе карысьць!

## Гаспадарчыя парады.

### Хворы конь.

**Пытаньне:** Маю 3-х гадовага каня, які на выгляд здаровы, мае апэтыт, але худы і пры выпушчаньні мочы не выстаўляе посіка; конь ад восені не працуе; корміцца сечкаю з канюшынай і каля 1 кгр. вотрубяў штодня. Прашу рады.

**Адказ:** Перш за ўсё рэч недапушчальная, а нават і вартая кары, каб маладога каня ўжываць вельмі рана да працы, г. зн. да скончаньня трох гадоў; праўдападобна—ад гэтага перадчаснага ўжываньня да працы конь худы і недаразьвіты, а тым болей, калі адтрымлівае гэткі благі корм. Даваць 3-х гадоваму каню аж «каля 1 кгр. вотрубяў» і да гэтага сечку з канюшынай—гэта марнаваньне каня. Дзіўная справа, што гэты конь яшчэ жыве ў гэткіх варунках. Благі гаспадар той, хто гэтак робіць, і не павінен ён брацца трымаць інвэнтар.

Трэба даваць каню штодня па $3^1/_2$ клг. аўса і стольki-ж пшанічных вотрубяў, зьмешаных разам, і да гэтага добрае сена з канюшынай. Жывот некалькі разоў на дзень натрэваць халоднаю вадою і браць каня паступова ў лёгкую і надоўгую спакойную работу. Глядзець, ці ў выпаражненьнях каня няма чарвей.

### Хвароба быдла.

**Пытаньне:** У некалькіх штук быдла я заўважыў паменшаньне апэтыту і мочу чырвонага колеру. Прашу рады.

**Адказ:** Хвароба гэтая завецца лясною, таму, што яна найчасьцей зьяўляецца ў быдла, якое пасецца на лясных альбо недалёкіх ад лесу пасьбішчах.

Праяўляецца крываваю мочаю, аслабеньнем, цяжкім дыханьнем і гарачкаю. Малако робіцца жаўтаватым, каровы маюць завал альбо ляксу. Хвароба цягнецца ад 5 да 10 дзён; выклікаюць яе малыя кляшчы, якія знаходзяцца на расьлінах. Упіваючыся ў скуру жывёле, яны затручваюць кроў яе тымі, якія ў іх знаходзяцца, апівошамі (грушкоўцамі). Трэба зараз - жа перагнаць быдла на зусім іншае пасьбішча, ахопленыя хваробаю штукі змачыць салёнаю вадою, альбо тарпатынаю і пазьнімаць з іх кляшчы, якія сядзяць у скуры, паіць адварам льнянага насеньня і кожныя тры гадзіны даваць у нутро пяць грамаў парашку sanguis draconis у бутэльцы вады ў працягу цэлага дня, а на крыж рабіць аклады з халоднае вады. Ня слаць пад быдла падсьцілу з лесу.

### Хворыя куры.

**Пытаньне:** Мае куры маюць нейкія дзіўныя струпы на лапах, якія вельмі сьвярбяць. Што гэта за хвароба і як яе лячыць?

**Адказ:** Струпы на лапах пры моцным сьвярбеньні сьведчаць аб тым, што гэта кароста, якая выклікана пэўнага роду апівошамі — кляшчамі. Трэба хворыя штукі зараз-жа выдзяліць у асобны будынак, хворыя ногі ў працягу 2-х дзён шмараваць шэрым мылам, пасьля змыць цёплаю вадою і вышмараваць гэткаю мешанінаю: паўложкі сэркі, $^1/_4$ ложкі чыстага карболевага квасу і 4 ложкі топленага шмальцу.

Катухі добра ачысьціць, карытцы і загарадкі вышараваць гарачым содавым лугам, пасьля пабяліць і праветрыць.

## ДА ЎСІХ ПАДПІСЧЫКАЎ.

Шмат нашых чытачоў зьвяртаецца да нас з заявай, што неакуратна адтрымоўваюць газэту.

Пры праверцы ў адміністрацыі выходзіць, што газэта высылаецца акуратна.

Відаць прападае яна на пошце. Дзеля гэтага просім нашых чытачоў, прысылаючы заявы аб неакуратным адтрыманьні нашае часопісі, пісаць у іх бязумоўна, якіх нумароў яны не адтрымалі. З свайго - ж боку, калі на пошце ім кажуць, што газэты няма, то павінны яны патрэбаваць ад начальніка пошты „Kartę prenumeraty“, ў якой выпісаны імя і прозьвішчы ўсіх, каму на гэтую пошту высылаюцца газэты і ў якім ліку экзэмпляраў, з якой яны даведаюцца, ці газэта ім высылаецца.

## Куток для мацярок.

ДОКТАР РАВІЧ.

### Аб купаньні дзіцяці.

Няраз мяне задавалі пытаньне, чаму дзіця, якое мы лічым слабою істотаю, павінна быць купаным штодня, калі з дарослым гэтага ня робім, а нават лічым, што вельмі частыя ванны аслабляюць арганізм. Вось-жа перш за ўсё вымагае выясьненьня гэтае пераканаНьне аб тым, што ванна робіць аслабляльны ўплыў: уплыў гэткі сапраўды можа мець ванна, блага зробленая—занадта цёплая і вельмі доўга трывалая, а памылка ў гэтым кірунку якраз вельмі часта здараецца.

Дзіця, нядоўга купанае, ў вадзе адпаведнае цяплыні, ня толькі ня чуе сябе горш, але гэтае штодзеннае купаньне зьяўляецца для яго здароўя неабходна патрэбным. Скура ў дзіцяці мае шмат большае значэньне, як у дарослага, бо выдатна ўплывае, —як нам ужо вядома,—на здольнасьць ладу рэгуляваньня ўнутранае цяплыні цела, г. знач. папярэджаньня лішняга ахалоджваньня альбо перагреваньня цела. Скура ў дзіцяці, як вельмі ўражлівая, таксама лягчэй паддаецца псаваньню (сьціраньне, скалечаньне, апрэласьць, апараньне), што дае магчымасьць тым, якія на ёй знаходзяцца, мікробам пралазіць глыбей і выклікаць цяжкія агульныя хваробы па-за самай скураю (рожа ці ракі), якія для дзяцей зьяўляюцца таксама больш небясьпечнымі, як для дарослых. Калі да гэтага дадамо забруджаньне дзіцяці па прычыне аддаваньня пад сябе мочы і калу, дык хіба што лёгка зразумець, чаму дзіця павінна быць штодзенна купаным. Дзеці вельмі добра чуюць сябе, купаючыся; а калі, як гэта бывае, маці кажа, што дзіця ня любіць купацца, і ў ванначцы крычыць, дык напэўна ванна была зроблена няўмела і гэта зьнеахвоціла дзіця да купаньня.

Ванну найлепей рабіць заўсёды ў адну пару, перад палуднёвым сном дзіцяці. Ня трэба купаць дзіцяці ў кароткім часе пасьля яды. Цяплыня вады мае адпавядаць цяплыні цела, г. знач. павінна раўняцца 37 градусаў, пры мераньні паводле Цэльсія—(37° С.); дзеля мераньня вады ў нас аднак-жа зьяўляюцца ўжыванымі градусьнікі з падзелам Рэомюра (R); пры гэткім мераньні ўсё роўна якая ванна, адпавядаючая цяплыні цела, павінна мець тэмпэратуру каля 29° R. Ванны градусьнік не зьяўляецца каштоўным набыткам, а, маючы гэткі градусьнік, маці пазбаўляецца вялікага клопату, як проба рукою, ці ванна ня ёсьць халаднаватаю альбо занадта гарачаю. Гэтае павярхоўнае азначаньне цяплыні вады (далоняй або лакцём) якраз зьяўляецца прычынаю зьнеахвочаньня дзяцей да ванны; скура на лакці ў маці мае іншую ўражлівасьць на цяплыню, як цела ў дзіцяці,—дык і трудна гэтым спосабам азначыць, ці ванна зьяўляецца адпаведнаю. Далей трэба помніць аб зьмяшаньні вады перад мераньнем яе тэмпэратуры і ўлажэньнем дзіцяці да ванначкі. Для купаньня найлепшымі зьяўляюцца эмалёваныя ванначкі, стаўляныя высока, каб маці ня трэ' было занадта нагінацца. Аднак можна купаць дзіця ў дзеравяннай ванначцы, абы толькі гэтая ванначка (альбо начоўкі) была ўжывана толькі і толькі для купаньня, — ў частковасьці нельга ні ў якім выпадку мыць пялюшак у тэй самай судзіне, якая служыць для купаньня дзіцяці, бо пасьля гэткага забруджаньня цяжка давясьці ванначку да чыстаты. Пасьля кожнага купаньня ванну трэба добра вышараваць і паставіць у чыстым месцы, перавернёнаю дагары дном. Ванначку з вадою для купаньня стаўляем бліжэй да печы (але ў пакоі не павінна быць вельмі горача), а дзьверы ў пакоі замыкаем на ключ, каб ня былі адчынянымі ў часе купаньня дзіцяці. Побач з ванначкаю стаіць столік, а на ім прырыхтоўваем загадзя ўсё тое, што патрэбна пры купаньні — хто закіне гэтыя прырыхтаваньні і дакладна не праверыць,ці ўсё на месцы, той можа лёгка падвясьці дзіця пад лішняе доўгае прабываньне ў ваньне. Самае купаньне павінна цягнуцца коранецька, не даўжэй як 4 — 5 мінут, ня лічачы намыльваньня цела і мыцьця вачэй, вушэй, носіка і іншых шчылінаў цела, што трэба зрабіць беспасярэдня перад купаньнем. Аб гэтых спосабах, неабходных для чыстаты цела, напішам у чародным нумары.

(„Kultura“).

## Карэспондэнцыі.

### Трудна жыць.

Дзісьненскі пав.

Шырока расказваць ня трэба, бо кожны ведае, што тут у нас навакол зьбітай масай жывуць беларусы-земляробы. Працуюць яны, стараюцца і б'юцца, як рыба аб лёд, мо' падумаеце, што яны багатыя? Дзе там? Год ад году ўсё бяднеюць. Зямлі маем мала, работы няма, грошаў няма і есьці няма чаго. Па буднях днёх да поту працуем на полі, дзяўчаты кросны ткуць, а дзеці ў школу польскую ходзяць, хоць карысьці з яе маюць мала, бо за тры зімы не навучацца на'т і пісьма напісаць. Сьвятам або сьпімо, або ідзем у касьцёл слухаць, што ксёндз скажа пра „ојczyznę“. Бываець, маладыя бавяцца, а старыя зьбяруцца і ў карты рэжуць, а пасьля гавораць пра сваё жыцьцё, беднату. Наракаюць на паноў, што ня маюць літасьці над мужыкамі і прагульваюць мужыцкую мазольную працу. Наракаюць на ксяндзоў, што дорага дзяруць за рэлігійныя паслугі. Наракаюць урэшце на ўрад, што ніякага дабра ня робіць для беларусаў і дзівяцца, што хаця так многа паслоў у Сойме, аднак карысьці яны мала прыносяць. Аб нас яны ня помняць, што мы гаруем без зямлі і заработкаў нямашака, а падаткі мусім плаціць вялікія. І ня можам не нажаліцца на на сваё цяжкае і гаротнае жыцьцё ў сваей роднай газэце „Беларускім Дні“, дзе доля нашага сярмяжніка знойдзе спачуцьцё і апеку.

Вось аб чым гавораць і як цяжка жывуць нашыя сяляне, а ўсё-ж такі спадзяюцца, што некалі сонца засьвеціць і ў нашае ваконца.

АК.

## Наш солтыс.

(Цырынская вол., Наваградзкі пав.)

Ёсьць у нас солтыс Ігнат Сен—віч, які жыве ў фальварку Цінявічы. Як чалавек, дык ён не над'звычайны, аб гэтым сьведчыць і тое, што сяляне ўжо некалькі разоў стараліся яго зьмяніць. Але вось ненавідзіць ён беларусаў і старается шкодзіць усяму, што беларускае. Здарыўся нядаўна гэткі факт. 25.V. г.г., бьўшы на пошце, ён забраў пісьмы і газэты. Паміж газэтамі быў і „Беларускі Дзень", прызначаны для Я. М. Солтыс пісьмо аддаў, а газэту затрымаў. Я. М. зьвярнуўся да солтыса і прасіў аддаць газэту, дык зразу солтыс не хацеў, а ўрэшце аддаў, але з вырванымі 2 картамі. Солтыс тлумачыў, што такую газэту адтрымаў з пошты. Аднак, гэта няпраўда. Газэту парваў солтыс. Памятайце людцы, каб не выбіраць такіх солтысаў.

Беларус.

Ад Рэдакцыі. Калі-б паўтараліся падобныя факты, просім пісаць зараз-жа ў рэдакцыю. Пастараемся зьвярнуць увагу вышэйшых уладаў на паступкі падобных людзей.

## Людзкая цемната.

(Асіна-Гарадок, Пастаўскага пав.)

Што ў нас на вёсках цемната ня мае граніц аб гэтым сведчаць розныя сьмешныя, а часам і сумныя факты. Адзін з гэтакіх фактаў я хачу высьвяціць нават у газэце.

Асіна-Гарадок у нас на ўсю ваколіцу славіцца сваімі прыгожымі дзяўчатамі. Нашыя хлопцы проста галовы трацяць, каб як-небудзь да каторай падлабуніцца. А да іх дык ані прыступіцца, як кажуць, няма і „прыдару". Бо і ня дзіва— дзяўчаты стройныя, гладкія, як з мармуру вылітыя. Шчочкі, як рожы вясеньнія, а вочы, як зоркі. Аднак адна з іх (ня ведаю, як яе імя) была усё такі незадаволена сваёю пекнатою і захацела быць харашэйшай за ўсіх. Але вось бяда, ніяк не магла красуня пазбыцца балячак на твары, якія харошую дзяўчыну блізка што зусім, „шпэцілі". І якіх толькі спосабаў бедная ня ўжывала, але ўсё надарэмна — балячкі ня зьнікалі.

Урэшце ўдалося дзяўчыне знайсьці „радыкальны" спосаб пазбыцца прыкрых балячак.

Ня ведаю, ці сама адкрыла такі вялікі сакрэт ці мо' хто іншы, але быў ён гэтакі: памёрла ў Асіна-Гарадку адна жанчына. У гэты час маладая дзяўчына адрэзала коску сваіх валасоў і, добра выцершы імі ўсе балячкі на твары, ўзяла ды падлажыла гэтыя валасы нябожчыцы ў труну. З гэтымі валасамі нябожчыцу і пахавалі.

Пасьля гэтага прайшло шмат часу, а балячкі ў красуні, як былі, так і асталіся. Ды к таму-ж і нябожчыца падобна пачала штоноч прыходзіць да дзяўчыны з пратэстам, нашто падлажыла ёй свае валасы і вымагала, каб дзяўчына зараз-жа забрала іх з труны. Яшчэ горш засумавала бедная дзяўчына: і балячкі ня зьнiклі і нябожчыца не давала спакою.

Доўга цярпела дзяўчына ўсялякія прыкрасьці ад нябожчыцы, але нарэшце ня вытрывала, ўзяла ды пахвалілася аб гэтым здарэньні бацюшку. Бацюшка падобна пасварыўся на дзяўчыну ды параіў ёй знайсьці пэўнага чалавека, які згадзіўся-б адкапаць нябожчыцу, а яна тады павінна была забраць свае валасы назад.

Як кажуць, так і сталася. Нябожчыцу адкапалі, але валасоў сваіх дзяўчына не знайшла, а магілку ізноў закапалі.

Пэўны час уся гэта справа была ў тайне. Толькі ў апошнім часе, калі маладая дзяўчына з балячкамі на твары, стала зусім хворай і зьвярнула на сябе ўвагу суседзяў, дык усё пачало высьвятляцца.

Дык вось да чаго даходзіць на вёсках цемната людзкая! Сколькі трэба часу і працы, каб яе адтуль выгнаць! А трэба заўважыць, што на вёсках з моладзі толькі хлопцы ёсьць крыху разьбітнейшыя, яны часцей маюць дачыненьне з газэтай ці кніжкай, а дзяўчаты, дык бадай бяз вынятку, знаходзяцца пад уплывам бабскіх забабонаў. Сорамна!

Чычынка.

# З жыцьця беларусаў у Чэхаславакіі.

### Рэктар Б. Д. У. ў Празе.

18-га чэрвеня г. г., неспадзявана прыехаўшы ў Прагу, рэктар Беларускага Дзяржаўнага Унівэр-ту праф. Пічэта, зрабіў даклад ў рэстаране „Новая пошта", а 2-й гадз. папал.

А назначанай гадзіне, каля рэстарану сабралася шмат зьменавехаўцаў і паступоўцаў-маладнякоўцаў.

Даклад праф. Пічэта пачаў з гісторыі унівэрсытэту, якую ілюстраваў статыстычнымі дадзенымі, зазначыўшы што лік беларусаў ў Б. Д. У. павялічыўся.

Трэба зазначыць, што праф. Пічэта падчас дакладу трымаўся вельмі асьцярожна і аб палітычным жыцьці ў Б. С. С. Р. маўчаў; пры кожным заканчэньні думак паўтараў: «едзьце туды, там патрэбны сілы!». Агулам даклад быў вельмі сухі.

---

Аднаднёўка „Народ" тутака ў Празе знайшла сабе прыхільнікаў толькі сярод дзе-якіх зьменавехаўцаў і асабістых прыхільнікаў Я. Станкевіча, другая частка эміграцыі спаткала яе, як новую правакацыю для разьбіцьця адналітага беларускага незалежніцкага фронту.

Прысутны.

# Звальненьне арыштованых беларусаў.

Уночы з 30 чэрвеня на першага гэтага ліпня ў Вільні арыштована некалькі беларусаў і паміж іншымі Я. Маразовіча, Ігната Дварчаніна, В. Грышкевіча, Я. Мамоньку, М. Косьцевіча і Мэнкэ.

Некаторыя польскія газэты, ў зьвязку з гэтымі арыштамі, пісалі, быццам арыштованыя мелі замер выступіць у дзень прыезду ў Вільню Прэзыдэнта Рэспублікі, а заграніччныя газэты, як напр., рыская „Сегодня", нават піша, што на чале „тэрорыстых" стаяў Я. Мамонька, што ў яго знойдзены нейкія... бомбы.

Усе гэтыя весткі выдуманы спрытнымі даносчыкамі, якія хацелі зарабіць на арыштах. Усіх арыштованых ужо звольнілі і гэта найлепей сьведчыць, што ніякага збройнага выступленьня і ніякіх замахаў арыштованыя не падрыхтоўвалі.

---

### П'еса Э. Ожэшко ў беларускім перакладзе.

І. Мятлою і І. Дварчанінам толькі што выпушчана з друку п'еса Э. Ожэшко з сялянскага жыцьця „У зімовы вечар", пераклад з польскае мовы Власта. Стаўляная няраз на сцэне п'еса гэтая дасюль была адбіта толькі на гэктографе; цяпер яна выдана брашураю ў 32 стр. вельмі старанліва.

### Каранацыя Вобразу Маткі Божай Вострабрамскай.

Урачыстасьць каранацыі пачалася ў суботу 2 ліпня а 10 гадз. раніцай. А гадз. 9 пачаў ісьці вялікі дождж, дзякуючы чаму, ўрачыстасьць страціла тую магутнасьць, аб якой столькі гаварылася і пісалася. Урачыстасьці, аднак, не адлажылі, яна пачалася з поўгадзінным апазьненьнем. Цудоўны абраз, які ўжо 1 ліпня ўрачыста быў перанесены з Вострай Брамы ў катэдру, а $10^1/_2$ гадзіне выносяць, на зумысьля збудованы аўтар. Вобраз акружыла духавенства. Сярод дастойнікаў касьцельных было 2 кардыналы, 14 біскупаў і шмат духавенства. А 11 гадз., ня гледзячы на дождж, прыяжджае Прэзыдэнт Рэспублікі з Марш. Пілсудскім, за імі міністры Мэйштовіч, Станевіч, Добруцкі, Мэдзінскі, Ромоцкі, Незабытовскі і іншыя.

Наступае каранацыя Вобразу. Кардынал Каковскі адпраўляе імшу. Падчас каранацыі, калі кардынал Каковскі клаў карону, загрымелі гарматы. Наступіла двухмінутная цішыня. Пасьля імшы і адсьпяваньня гімну „Te Deum", паход ідзе ў асысьце духавенства да Вострай Брамы. Вобраз нясло 12 ксяндзоў. За вобразам ішлі: Прэзыдэнт Рэспублікі, Маршалак Пілсудскі і прадстаўнікі Сойму і Сэнату.

Вобраз прынясьлі да Вострай Брамы і ўмясьцілі ў Вострабрамскай Капліцы. Як ужо ўспомнілі, дзякуючы дажджу, ня так многа народу брала удзел у ўрачыстасьцях. Польскія газэты жаляцца яшчэ на адно. Перад урачыстасьцямі сьцягнулі ў Вільню шмат паліцыі, так што часта зусім непатрэбна пілігрымаў не дапушчалі і затрымлівалі, ў той час, як ніякай небясьпекі ня было.

Наагул сама ўрачыстасьць прайшла спакойна.

# Палітычны агляд.

**Кітайская нацыянальная рэвалюцыя** ўступіла ў новую фазу, фазу рашучае перамогі нацыяналістых - незалежнікаў. Гэнэрал Чан-Кай-Шэк, які нядаўна ў імя ідэі незалежнасьці Кітаю парваў з маскоўскімі саветчыкамі і змушаны быў змагацца на два фронты: проціў мілітарыстых - хунхузаў Чан-Со-Ліна і камуністычнага ўраду Ханкоу, **сягоньня** спраўляець сьвята перамогі над адным з ворагаў незалежнасьці, над камуністымі. Тая самая Масква, каторая так нядаўна вылівала на яго галаву памыі гразі і называла яго здраднікам рэвалюцыі, **сягоньня** змушана прызнаць урад Чан-Кай-Шэка за ўрад усяго Паўднёвага Кітаю. Аб гэтым „таварыш" Бухарын нават напісаў артыкул у маскоўскіх газэтах, каб тым самым даць інструкцыі ўсім камуністым спыніць акцыю проціў Чан Кай-Шэка. Трэба проста дзівіцца сьлепаватасьці маскоўскае палітыкі, якая хацела ў Кітаі зрабіць нейкую пролетарскую рэвалюцыю ў той час, калі у Кітаі рабочых усяго 1% насяленьня. І ўсе шансы перамогі, як з боку ідэйнага, так і з боку фізычнае сілы меў гэты самы нікому невядомы да таго гэнэрал Чан-Кай-Шэк, які рэпрэзэнтаваў радыкальныя настроі і імкненьні ўсяго кітайскага народу. Перамога Чан - Кай - Шэка нечакана прыняла драматычныя формы. Гэнэрал Фэнг, які вызначаны быў Масквою на глаўнакамандуючага ўсёю Ханкоўскаю арміяй і для барацьбы з арміяй Чан-Кай-Шэка, нечакана для Масквы заместа барацьбы — паддаўся Чан-Кай-Шэку, перайшоў на яго бок. Адначасна з гэтым у Ханкоу, дзе сядзелі савецкія гэнэралы —бюракраты Бородзін і Гален, адбыўся антыкамуністычны пераварот і, такім спосабам, усе пляны Масквы лопнулі, як мыльны пузыр. Перамога кітайскае нацыянальнае ідэі, пасьля ліквідацыі паслушнага Маскве Ханкоўскага ўраду, стала блізкаю, бо хто-ж астаўся з праціўнікаў Чан Кай-Шэка? Адзін Чан-Со-Лін, які ня маець вялікага значэньня, бо зьяўляецца тыповым хунхузам-разбойнікам і ні на каго, апрача сваіх наймітаў, не апіраецца.

За Чан-Кай-Шэкам засталося поле бою і сягоньня можна быць пэўным, што ў хуткім часе гэты малады кітайскі гэнэрал уступіць у Пэкін і падымець у ім штандар Вялікага Незалежнага Кітаю, аб чым ён заявіў пасьля заняцьця сваімі воскамі Шанхаю.

Ліквідацыя бальшавіцкіх уплываў на кітайскую нацыянальную рэвалюцыю маець вялізарнае значэньне для далейшага ходу гістарычных падзеяў на Ўсходзе, а таксама і ў Эўропе, бо сьведчыць, што бальшавізм, як ідэя, акасьцянеў, а самі бальшавікі ўжо ня здольны кіраваць паўстаўшымі народнымі масамі. Ліквідацыя маскоўскіх уплываў на ход кітайскіх падзеяў ізолюець бальшавізм і робіць яго зьяваю выключна расейскаю, ці правілавей кажучы, велікарасейскаю.

**Украінскі і беларускі** нацыянальныя рухі з прычыны такога банкруцтва Масквы ў Кітаі, значна ўзмацніліся. На Украіне сэпаратыстычныя ўхілы захапляюць усё больш і больш шырокія колы украінскага народу і нават некаторых украінскіх камуністых, якія сталі ў вострую опозыцыю Маскве.

У зьвязку з гэтым Цэнтральная Кантрольная Камісія В.К.П. (аддзел Г.П.У.—спэцыяльна для барацьбы з непраставернымі камуністымі) камандзіравала на Украіну цэлую камісію на чале з Яраслаўскім, каб пачысьціць украінскіх камуністых. Гэтая камісія шмат выключыла з партыі шчырых украінцаў. Яшчэ больш арыштована. „Чырвоны" тэрор гуляець цяпер на Украіне, бо Масква лічыць і зусім правільна, што украінскі нацыянальны рух, пасьля апошніх няўдачаў бальшавікоў у Эўропе і Азіі, можа стаць вельмі небясьпечным для самага істнаваньня бальшавіцкае дыктатуры. Само сабою зразумела, што барацьба украінцаў ня спыніцца на тым, што Яраслаўскі аб'ехаў Украіну. Прыймаючы нелегальныя формы, яна будзець абвастрацца і паглыбляцца і мусіць з часам прыняць масавыя формы народнага руху — барацьбы за незалежную Украіну.

На Беларусі нацыянальны рух прыймаець таксама вострыя формы. Назначэньне Кнорына, якому Масква даручыла

скруціць у барані рог беларускіх незалежнікаў, асабліва-ж маладых і непрымірымых, азначаець, што Менск у сучасны момэнт зьяўляецца вельмі паважнаю палітычнаю пляцоўкаю. Пакуль што, праца Кнорына выявілася толькі ў тым, што ў Менску і па ўсёй Беларусі арыштована каля 150 чал., усё больш маладых беларусаў, якіх вывезьлі ў Маскву. Значная частка з арыштованых былі студэнтамі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, у якім істнавала некалькі тайных антымаскоўскіх нацыяналістычных гурткоў. Наагул тэрор проціў беларусаў, украінцаў, каукаскіх народаў за апошнія часы значна ўзмацніўся і расстрэлы зьяўляюцца звычайнаю зьяваю ў Менску, Харкаве, Адэсе, Кацерынаславе, Хэрсоне. Ува ўсіх гэтых гарадох апошнімі днямі адбыліся масавыя расстрэлы ні ў чым непавінных людзей, зробленыя выключна дзеля таго, каб застрашыць народ.

У зьвязку з крызысам бальшавізму, ў Польшчы пачынаюць больш цікавіцца нацыянальнымі пытаньнямі, асабліва украінскаю проблемаю. Украінскія незалежнікі нядаўна склікалі зьезд ў Кракаве (было больш як 100 дэлегатаў). Украінскі сялянскі саюз Васынчука, парваўшы з Масквою набіраець усё больш і больш уплыву і павагі і наагул прыкмячаецца значнае ажыўленьне украінскага руху ў Польшчы, чаго, на вялікі жаль, пакуль што, нельга яшчэ заўважыць сярод віленскіх беларусаў, дзе ідзець далейшае драбленьне на групкі і зусім ня відаць хоць-бы гэтых праяваў консолідацыі беларускіх нацыянальных сілаў.

АГЛЯДЧЫК.

## СЬМЕХ і ЖАРТЫ.

### У доктара.

— Ці мачыў ты сабе лоб гарэлкай, як я табе казаў?

— Пане доктар! Прыпішэце мне якое-колечы другое лякарства, бо гарэлкі я вышэй вуснаў не магу падняць.

### У карчме.

Янка: Пры бутэльцы гарэлкі я забываюся аб усім на сьвеце!

Карчмар: Гэта нядобра: трэ' помніць хоць аб заплаце за гарэлку.

## Аб усім патроху

### Першая гутарка па тэлефону праз акіян.

Швэдзкі рэпортэр першы выкарыстаў нядаўна адкрытыя тэлефонныя зносіны Лёндан—Нью-Іорк. Швэдзкі прынц, які знаходзіцца ў Нью-Іорку, перадаваў па тэлефону сваё ўражаньне ад падарожжа рэпортэру аднэй швэдзкай газэты, які спэцыяльна дзеля гэтага прыехаў у Лёндан. Гутарка каштавала 150 фунтаў штэрлінгаў (каля 6750 злотых).

### Камісія выпівакаў.

Да гэтага часу ў Англіі пілі француськія віны. Цяпер у Англію прыслана значная колькасьць він з Аўстраліі „на пробу". У Лёндане створана спэцыяльная камісія з 40 чалавек—кваліфікованых выпівакаў, якая знайшла, што новыя віны па сваёй якасьці ня ніжэй за францускія і зусім могуць з імі канкураваць.

## Да нашых корэспондэнтаў!

Рэдакцыя просіць усіх нашых корэспондэнтаў з вёскі прысылаць весткі аб тым, як прайшлі выбары ў валасныя самаўрады, колькі выбрана беларусаў і іншых нацыянальнасьцяў і наогул асьвятляць выбарчую кампанію.



Рэдактар-выдавец Ф. УМЯСТОЎСКІ

Выд. Т-ва „Pogoń" Друк. „Рах", вул. Сьв. Ігната 5.